№ 102 Ausgabe B.

# ГОМАН

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 102 (193). Год II. Вільня, 21 сьнежня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Барацьба с большэвікамі.

### 20 сьнежня.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Пры Діксмуйдэн і Ленс—вострая бітва мінамётамі. Між лесам Гутгольст і Ліс на поўдні ад Скарп ажыўленая артылерыйская чыннасць.

**Македонскі фронт.**

Пры Вардары і між Вардарам і возерам Дойран—ажыўленая баевая чыннасць.

**Італьянскі тэатр:**

Італьянскіе контратакі на здабытые намі пазыції пры Пэртіка адбіты. На хрыбце Томба і на Пьяве—жывая артылерыйская бітва.

Ад 11 сьнежня ўзяты ў палон 270 афіцэраў і 8,150 салдатаў.

---

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Украінцы адабралі у болэшэвікоў аружжэ і выгналі іх с Кіеўскай губэрні і Конотопа.

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.) Большэвіцкі урад апавешчае гэткую адозву:

Рада ўмацаваных народам пацьверджае права ўсіх народаў Расеі, уціснаных царызмам і буржуазіей, і на свабодвае развіцьце, а разам с тым і права аддзяліцца ад Расеі. З гэтай прычыны яна прызнае і рэспубліку украінскаго народу. Ня гледзячы на гэта украінская рада пазволіла сабе абязброіць урадовые войскі ў Украіне. Украінская Рада падтрымлівае змову проці ўласьці рад і прыкрывае варожы да рэволюціі рух Каледіна. Яна адкрывае войску Каледіна вольны праход праз сваю зямлю. Пераходзячы на старану здрады рэволюціі, паддзержываючы кадэтаў і староннікоў Каледіна, украінская Рада ідзе на сустрэч аб'яўленьню ей вайны расейскім урадам, каторы стаўляе гэткіе вымогі:

Украінская Рада павінна адрачыся ад уселякіх спроб аслабіць фронт;

Украінская Рада павінна абязацца не пазволіць без пазваленьня глаўнакамандуючаго ісьці на Дон, Урал, ці ў іншые мейсцы;

Украінская Рада павінна аддаць аружжэ урадоваму войску і чырвонай гвардзіі, абязброеным ею.

Калі ў 48 гадзін ня прыйдзе памысны адказ, дык расейскі урад будзе прызнаваць стан вайны між Украінскай Радай і сабой.

ПЕЦЯРБУРГ. (Рэўтэр). Украінская Рада выпусьціла адозву аб утварэньні ў Украіне дэмократычнай рэспублікі, як часьці новай расейскай фэдэрацыйнай рэспублікі. Украінская рэспубліка абнімае губэрні: Кіеўскую, Падольскую, Валынскую, Чарнігаўскую, Палтаўскую, Харкаўскую, Кацерынаслаўскую, Херсонскую, Таўрыдзкую бяз Крыму, Курскую, Холмскую і Варонежскую. Украінскіе войскі занялі ў Одэссі арсэнал, тэлеграф і тэлефон. Большэвікі дзержацца ў порце.

ЛОНДОН. (Рэўтэр). Ўкраіна злучылася с Каледіным і зрабіла саюз с Сібірам і Каўказам.

ПЕЦЯРБУРГ (Рэўтэр). Грамадзянская вайна шырыцца па Волзе на поўнач, Астрахань—у руках большевікоў; аднак, казакі стаяць ўжо ў 20 верстах ад места. Бітва мусіць ужо пачалася. У Царыцыне панують староннікі Іліодора. На Самару наступае казацкі атаман Дортов.

ПЕЦЯРБУРГ. Адбыўся обыск у кватэвы пані Керэнскай. Арэштована графіня Паніна, быўшая пры Керэнскім памочнікам міністра, і ніжэпісаные члены нацыональнаго сходу — галовы кадэтаў: б. міністэр Шынгаров, б. імперскі кантралёр Кокошкін, Родічэв, Кутлер, Вінавэр і кн. Солгурав (?).

БЭРЛІН У Брэст-Літоўск выехал міністэр заграничных спраў, Кюльман, разам с сэкрэтаром пасольства, Гэш.

ПЕЦЯРБУРГ. Рэктор маскоўскаго унівэрсытэту, Покровскій, выехаў у Брэст-Літоўск.

ШТОКГОЛЬМ. „Праўда“ наказуе, што саюзьнікі трэбуюць ад Расеі звароту авансаў, выплачэных цару і Керэнскаму.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). Адна з нашых падводных лодак ізноў затапіла 5 параходаў ёмкасьцю разам 23 000 тонн.

---

## Мірные перэгаворы.

### Варункі замірэньня.

Глаўные пункты зробленаго між Расеей і цэнтральнымі дзержавамі на 28 дзён замірэньня гэткіе:

Мэта замірэньня: дайсьці трывалаго, пачэснаго для ўсіх старон міра.

1) Замірэньне пачынаецца 17 сьнежня а 12 гадз. і трывае да 14 студня 12 гадз. На 21 дзень замірэньня кожная старана мае права заявіць, што ня хочэ яго на далей. Калі гэткай заявы ня будзе, дык замірэньне трывае датуль, пакуль адна с старон не заявіць, што цераз 7 дзён лічыць яго закончэным.

2) Замірэньне абнімае ўвесь фронт між Чорным і Балтыцкім морам і расейска-турэцкі ў Азіі. Увесь час замірэньня староны на фронці між Чорным і Балтыцкім морэм абязываюцца не рабіць перавозкі войск.

4) Зносіны між войскамі варожых старон дапускаюцца на гэткіх варунках:

а) зносіны пазваляюцца парлямэнтарам і членам камісій дзеля спраў замірэньня;

б) на кожным фронці расейскай дывізіі зносіны могуць адбывацца у 2 ці 3 пунктах; гэтые пункты на моцы ўзаемнай угоды адзначываюцца белымі флагамі; зносіны дапускаюцца толькі ад усходу да захаду сонца.

На гэтых пунктах могуць быць разам ня больш 25 безаружных асоб с кожнай стараны.

Дапускаецца абмен весткамі і газэтамі. Пазваляецца прадаваць і меняць прадукты штодзеннаго ужытку.

9) Абедзьве стороны, як толькі будзе падпісана гэта умова аб замірэньні, пачнуць перэгаворы аб міры.

10) Трымаючысь прынцыпа волі і незалежнасьці Пэрсіі, турэцкая і расейская глаўная каманда згаджаюцца вывясьці с Пэрсіі свае войскі.

11) Кожная старана атрымае одпіс гэтай умовы ў нямецкай і расейскай мове с подпісамі паўнамочнікоў.

### Дадатак да умовы аб замірэньні.

Абедзьве стороны умовіліся хутка зрабіць замену цывільных палонных і няздольных да службы ваенна-палонных.

Дзеля ускарэньня мірных перэгавораў і каб залячыць раны, зробленые цывілізаціі вайной, будуць учынены крокі дзеля павароту культурных і экономічных зносін між ваюючымі. Дзеля гэтаго маюць служыць: аднаўленьне пачтовых і тарговых зносін, перасылка кніг і газэт і т. п у межах, азначэных умовай аб замірэньні. Дзеля выработкі падробнасьцей у найбліжэйшым часі сазываецца ў Пецярбурзі мешаная камісія с прэдстаўнікоў усіх учасьнікоў вайны.

---

БЭРЛІН. (В.Т.Б.) 17. XII. Урады Нямеччыны, Аўстрыі, Боўгарыі і Турэччыны ўжо ў найбліжэйшых днях пачнуць перэгаворы з Расеей аб міры. Нямецкіе дэлегаты маюць выехаць. Падгатавіцельные перэгаворы ужо пачаліся у Брэст-Літоўску.

БЭРЛІН. Мае быць выбрана асобная камісія Рэйхстагу дзеля учасьця ў мірных перэгаворах, зложэная с 14 асоб.

Думаюць, што утварэньне гэткай камісі адбудзецца зара пасьля Каляд.

У Брэст-Літоўску цяпер знаходзіцца быўшый міністэр унутрэных спраў, Дэльбрык.

Быўшый віцэ-Канцлер Гэльффэріх наняў пры вуліцы Унтэр дэн Ліндэн памешчэньне дзеля ўстройства бюро, каторае займецца разработкай экономічных пытаньнёў, звязаных з мірам.

У нямецкім дзержаўным банку ў найбліжэйшых днях будуць адбывацца нарады с прычыны аднаўленьня расейска-нямецкіх тарговых зносін.

ВЕНА. **Аўстрыяцкі парлямэнт.** Міністэр-прэзыдэнт ф. Цэйдлер заявіў, што паводлуг констытуціі мірные певэгаворы вядзе міністэр заграничных спраў. Констытуція не дапускае кантролю перэгавораў парлямэнцкімі камісіямі. У часі перэгавораў з Расеей, ведама, будуць уладжэны і экономічные адносіны. Мір з Расеей будзе зроблен без гвалту над ей у постаці адарваньня яе зямель або экономічнаго.

За аўстрыяцкаго прэдстаўніка глаўнай каманды на перэгаворах у Брэсьці назначэн гэнэрал Гіцсэріс, каторы ў часі расейска-японскай вайны быў назначэн пры расейскай арміі.

СОФІЯ. Галава боўгарскай дэлегаціі на перэгаворах у Брэсьці — міністэр судоў, Попов.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Турэцкі міністэр заграничных спраў, Нэсімы-Бэй, с турэцкай дэпутаціей на мірные перэгаворы выехаў у Брэст цераз Бэрлін.

2. Ссыпаючы бульбу у склад і перахоўваючы там яе трэба з ей абхадзіцца асьцярожна, каб яе не пабіць, бо ад гэтаго яна гніе.

3. У складах бульбу нельга насыпаць лішне грубым пластом,— калі можна, не грубей 80 цэнтымэтраў. Толькі ў асаблівых добрых мейсцах дзеля пераховываньня і то, калі гэны сорт—трывалы, бульбу можна насыпаць грубей.

4. Склады павінны быць сухіе, прахалодные і з добрай цягай паветра. Ніколі ня можна складываць бульбы ў мяхох ці зачыненых скрынях.

5 Найлепшая тэмпэратура у складзі—гэта 2°—8°. Лёхі і іншые мейсцы, у каторых нельга давясьці тэмпэратуры да вышэй паказанай, ня могуць быць ужыты дзеля хаваньня бульбы.

6. Бульбу трэба забаспечываць ад марозу. Доўга ляжучы пры тэмпэратуры каля 0° бульба робіцца салодкай. Пры ніжэйшай за—2° Цэльсія тэмпэратуры бульба мерзне.

7. Зложэную бульбу трэба безупынна дагледаць. Калі будзе заўважэно ў іншых мейсцах гніцьцё, дык трэба бульбу стуль выкідаць, бо гніцьцё заразьліво

## Што рабіць з мерзлай бульбай.

Мерзлую бульбу трэба складаць у халодным мейсцы, каб яна не адтаяла. Перад ужываньнем яе трэба класьці на 12 — 20 гадзін (залежне ад таго, як крэпка яна прамерзла) ў халодную ваду, каторую добра зменяць. Бульбу ня трэба чысьціць а варыць разам з луской. Гэтак яно губляе свой саладкаваты смак і становіцца гэткай жэ добрай, як і не прамерзлая.

## АБВЕСТКІ.



# Спісак беларускіх кніжак.

Ведаючы цану кнігі, найлепей прыслаць грошы наперад — гэтак таней каштуе перасылка.

Кніжкі азначэные біс — выйшлі і лацінскімі і «рускімі» літэрамі

### Навуковые даступные для усіх.

| | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| біс Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік. Біографічны нарыс Р. Зэмкевіча | — | 20 |
| Praktyčnye rady ab harodnictwie | — | 7 |
| Гутаркі аб небі і зямлі з рысункамі | — | 15 |
| Цукер, В. Тройцы | — | 3 |
| Гутаркі аб гаспадарцы | — | 3 |
| Як ратаваць уздутую жывёлу | — | 3 |
| Як бараніцца ад халеры | — | 1 |
| Як рабіць добрые рамовые вульлі | — | 5 |
| Зямельная справа у Новай Зэляндыі | — | 3 |
| Кароткая гісторыя Беларусі—Власта | — | 6 |
| Bł. Andrej Boboła mučynik | — | 50 |
| Як выбіраць дэпутатоў у Гас. Думу | — | 20 |
| На дарозе да новаго жыцьця. А. Новіны | — | 2 |
| Alkahol | — | 3 |
| Rady dla małak | — | 3 |
| Św. Jozafat Kuncewič | — | 3 |
| Našto biełarusam gazety | — | 10 |
| Колькі слоў аб дзявочай опратцы на Беларусі | — | 3 |
| Pčalina—żywiołka małaja a karyści daje mnoha | — | |
| Як багацеюць чэскіе селяне | — | |

### Повесьці і апаведаньня прозай.

| | Цэна руб. | кап. |
|---|---|---|
| Гэдалі, Э. Ожэшко | — | |
| Казка аб вадзе | — | |
| Архіп і Лявонка,—М. Горкаго | — | |
| У дому лепей.—Новіча | — | |
| „Маладая Беларусь". Сэрыя І-я сшытак 1-шы | 1 | — |
| „Маладая Беларусь" „ „ сшыт: ІІ-гі | 1 | — |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 1 | — | 5 |
| Зборнік «Нашай Нівы» № 2 | — | 15 |
| Амэрыканец—А. Новіча | — | 20 |
| Бярозка і др.—Ядвігіна Ш. | — | 10 |
| Беларускіе казкі | — | 5 |
| Хілібэртава пакута, Амфітэатрова | — | 5 |
| Апаведаньня—Тараса Гушчы | — | 10 |
| Abrazki — Zmitraka Biaduli | — | 15 |
| „Маладая Беларусь". Сэр. 1-шая. Сшытак 3 | 1 | — |
| Калядная пісанка 1913 г. | — | 10 |
| Нёмнаў дар—Тараса Гушчы | — | 6 |
| Тоўстае палена — Тараса Гушчы | — | 5 |
| Апаведаньня — Галубка | — | 6 |
| Праклёнышы — Л. Гвозда | — | 6 |
| Аб чым шэпацелі лісьця | — | 6 |
| Стражнік.—Спёпк Бірыло | — | 10 |
| Васількі. Зборнік апаведаньнёў Ядвігіна Ш. | — | 30 |
| Родные зьявы. Зборнік апаведаньнёў. Т. Гушчы | — | 60 |
| Ня ўсе-ж разам ягомосьц!—Апаведаньне Лесіка | — | 5 |
| Сыгнал. Апаведаньне Гаршына | — | 5 |
| Як мы бяздольны. Петры Беларуса | — | 10 |
| Рунь Зборнік апаведаньнёў Максіма Гарэцкаго | — | |
| Вялікодная пісанка. Зборнік | — | 30 |

**Вільня, Завальная 7. Беларуская Кнігарня.**

Прысылаючы грошы почтай трэба адрэсаваць так: Wilnia, Wall-strasse 7, Weisruthenische Buchhandlung, W. Lastowski.



Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтва «Гоман». Рэдактар Язэп Салавей